На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 121 (243)

Пятніца, 18 ліпеня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля




Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"




Крупнейший поставщик бумаги и картона от шведских и финских производителей на Белоруси. Тел. (017) 223-28-33.

**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.44 | 21.26 |
| Магілёў | 4.50 | 21.18 |
| Гомель | 4.55 | 21.08 |
| Мінск | 5.01 | 21.29 |
| Гродна | 5.18 | 21.43 |
| Брэст | 5.26 | 21.35 |

*Поўня 20 ліпеня.*

Леко БУМАГА ПИСЧАЯ А4,60-70 г/м,500л 45.000-50.000 руб.
*Действует система скидок.*
Тел. /факс (017) 230-78-15.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает компания МОБИКОМ пейджинг-система
(017) 222-46-51
(017) 222-46-52

Незалежная экспертыза

## О, як далёка нам да Расіі...

**Уладзімір КУЛАЖАНКА,**
**доктар эканамічных навук, прафесар**

**Прапагандысцкая машына прэзідэнцкай каманды раскручвае апошнім часам перад сваім народам і за мяжой неіснуючыя перавагі беларускай каманднай эканомікі над эканомікай Расіі, якая хоць і паволі, але ідзе ў рынычным кірунку. А. Лукашэнка і яго памагатыя выхваляюцца стабільнасцю выдачы заработнай платы, пенсій ды сацыяльных дапамог. Але калі звярнуцца да аб'ектыўнага аналізу эканамічных паказчыкаў, якімі жанглююць прыхільнікі адміністрацыйнай сістэмы і каманднай эканомікі, то высвятляецца непрыглядны малюнак.**

**Як вядома, у Расіі з вялікімі цяжкасцямі, пераадольваючы супраціўленне лева-чырвоных, усё ж праводзяцца пэўныя эканамічныя рэформы. На Беларусі ў гэтым кірунку поўны застой. І каб апраўдаць сваю бесперспектыўную эканамічную палітыку, прапагандысцкая машына Адміністрацыі прэзідэнта ўбівае ў галовы свайго электарату ідэі пра нейкую стабільнасць у рэспубліцы. Маўляў, паглядзіце, у Расіі няма росту вытворчасці, а у нас ёсць, у Расіі па паўгода не выдаюць заработную плату і не выплачваюць пенсіі, а ў нас — рэгулярна. Нарэшце, цэны на прадукты харчавання ў нас ніжэйшыя. І гэтак далей.**

**Каб забяспечыць прапагандысцкую машыну фактычным матэрыялам, Міністэрства статыстыкі ўжо некалькі месяцаў друкуе ў сваіх бюлетэнях спецыяльную табліцу "Асноўныя сацыяльна-эканамічныя паказчыкі Рэспублікі Беларусь і Расіі", дзе дадзеныя прыводзяцца ў рублях і супастаўляюцца ў працэнтах. І толькі ў канцы табліцы, ужо ў зносцы, паведамляецца, што вартасныя паказчыкі прыведзены ў нацыянальных валютах.**

**Дык вось, калі пералічыць паказчыкі ў беларускіх рублях альбо, наадварот, у расійскіх і нават не па валютнаму курсу, які вызначае Расійскі цэнтральны банк (ён больш нізкі для Беларусі), а па курсу Беларускага нацыянальнага банка, як 4,7 беларускага рубля да 1 расійскага, то атрымліваецца, што па вытворчасці валавага ўнутранага прадукта мы адстаём ад Расіі не ў 9,4 разы, як паказана ў табліцы, што прыкладна адпавядала б розніцы ў колькасці насельніцтва, а ў 43 разы. Па вытворчасці на душу насельніцтва Беларусь, такім чынам, адстае ад Расіі аж у 3 разы. Дык ці ёсць тут месца ружоваму аптымізму?**

**Што датычыцца росту прамысловай вытворчасці ў Беларусі, чым ганарыцца і што выстаўляе за сваю заслугу Адміністрацыя, то сёлетні 10-працэнтны прырост за 5 месяцаў ёсць прырост прадукцыі... на склад. Запасы, якія на канец мая склалі 13,6 трыльёна рублёў, павялічыліся з пачатку года на 2 трыльёны рублёў. Нягледзячы на так званы прамысловы бум, менавіта прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва ў Беларусі выпрацоўваецца толькі 70% ад расійскага ўзроўню, інвестыцыі складаюць адну трэць ад расійскіх, а аб'ём рознічнага гандлю — толькі палавіну. Апошні паказчык між іншым сведчыць аб тым, што і жыццёвы ўзровень у нас удвая горшы.**

**Гэта па-першае, а па-другое — так званы рост атрыманы за кошт інфляцыі. Сярэднемесячная інфляцыя ў Беларусі складае сёлета дзесьці каля 7%, а ў Расіі — толькі 1,6%. А таксама коштам росту знешняй запазычанасці, галоўным чынам перад той жа Расіяй. Толькі па знешнему гандлю запазычанасць перад Расіяй за першыя пяць месяцаў года склала 10,5 трыльёна рублёў.**

**Свае перавагі перад Расіяй Беларусь згубіла і ў такой галіне, як сельская гаспадарка, што раней цяжка было нават уявіць. Мы ведаем, што справы ў сельскай гаспадарцы Расіі ідуць дрэнна. Неверагодна, але палавіну прадуктаў харчавання расіяне імпартуюць. Але там праводзяцца аграрныя рэформы і можна чакаць змен да лепшага. А як ідуць справы ў сельскай гаспадарцы Беларусі, калі нават ад Расіі мы ў гэтым плане адстаём на 20%. Гэта проста сенсацыя, але факт, які вызначае, чаго вартыя перыядычныя бойкі за ўраджай.**

**Казырнай картай прэзідэнцкай прапагандысцкай машыны з'яўляецца тое, што ў нас цэны ніжэйшыя на спажывецкім рынку. Правільна, ніжэйшыя, але няўхільна растуць да расійскага ўзроўню. І на такія прадукты, як яйкі, алей, мука пшанічная ды іншыя, ужо дасягнулі расійскага ўзроўню. Але пры гэтым замоўчваецца такая "дробязь", як розніца ў заработнай плаце. Калі ўзяць сярэднюю заработную плату ў Мінску і ў Маскве (правінцыяльныя параўнанні будуць прыкладна такімі ж), то ў Мінску яна роўная 1,9 млн. рублёў, а ў Маскве — 2 млн. расійскіх рублёў. Цяпер памножым расійскую заработную плату на каэфіцыент абмену рублёў і атрымаем, што масквіч мае сярэднюю заработную плату роўную 5,5 млн. беларускіх рублёў, ці амаль у 2,5 разы болей, чым мінчанін. З гэтага гледзішча цэны вышэйшыя ў нас, а не ў Расіі, яны хіба роўныя на хлеб ды малако. Беларускія цэны зручныя не для людзей пры мізэрнай заработнай плаце і жабрацкіх пенсіях, а для стыхійнага вывазу беларускіх тавараў у Расію. Варта зазначыць, што ў Расіі заработная плата засталася прыкладна на ўзроўні, якой яна была за савецкім часам, а ў Беларусі знізілася прыкладна ў 2,5 разы.**

**Як відаць з сённяшняй рэчаіснасці, беларусы, бадай, не дачакаюцца выраўнівання даходаў насельніцтва Расіі і Беларусі, чаго патрабуе адзінае інтэграцыйная прастора паміж саюзнымі дзяржавамі. Як трапна зазначыў адзін эканамічны аглядальнік, Беларусь з'яўляецца чорнай дзіркай па ўсіх паказчыках на адзінай інтэграцыйнай прасторы.**

Стоп-кадр



*Алеся, Алеся... На гэты раз Анатоль Ярмоленка — у ролі канферансье.*

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ і Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## Стараста вёскі



Стараста на сяле цяпер фігура паважаная. У вёсцы Шылін Бярозаўскага раёна на гэтую грамадскую пасаду выбрана загадчыца малочна-таварнай фермы Раіса Мікалаеўна Карпук. Больш за дваццаць год адпрацавала яна ў месным калгасе "Землядзелец". Нарадзілася ў Шыліне, ведае ўсіх аднавяскоўцаў. А ў вёсцы жыве 260 жыхароў, прычым 213 з іх — пенсіянеры. Вось і старается Раіса Мікалаеўна, каб забяспечыць іх з дапамогай меснага калгаса сенам, зямельнымі надзеламі, палівам.

**На здымку:** *стараста вёскі Шылін Раіса Мікалаеўна Карпук.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

З'явы жыцця

## Ні тыдня без пікетаў?

У Мінску — зноў пікет. На гэты раз прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" наладзілі 15 ліпеня пікетаванне Нацыянальнага прэсцэнтра, дзе ў гэты час праходзіў новы этап перамоваў паміж уладай і апазіцыяй. Мэта акцыі, па словах кіраўніка БСДП(НГ) М.Статкевіча, — падтрымка не столькі гэтага працэсу, колькі пазіцыі Вярхоўнага Савета. А гэта, іншымі словамі, і ёсць вяртанне да Канстытуцыі 1994 года.

Сацыял-дэмакраты, аднак, не хаваюць свайго скептычнага стаўлення да самога факту перамоваў. Так, на адным з плакатаў было напісана: "Перамовы ідуць — рэжым узмацняецца".

Дарэчы, прадстаўнікі ўладаў увесь час не пакідалі пікетчыкаў без увагі, назіраючы з машын з чорнымі шыбамі. Ахоўнікі правапарадку таксама прысутнічалі.

У ходзе перамоваў сацыял-дэмакраты закранулі розныя хвалюючыя тэмы. Напрыклад, абмяркоўвалася іх стаўленне да новага Асноўнага Закону: "Няма падзелу ўладаў — няма Канстытуцыі".

Над пікетчыкамі лунаді бел-чырвона-белыя сцягі. Гэта падымала настрой і ўсяляла аптымізм у душы вымакшых пад дажджом грамадзян.

**Вадзім ДОЎНАР.**

Дзяржава супраць чалавека

## "Ураган", які прайшоўся па... рахунках укладчыкаў колішняга Ашчадбанку. І аб якім сёмы год маўчаць улады ды робяць выгляд, што нічога асаблівага не здарылася...

У сувязі з аварыйным станам майго дома і абясцэньваннем накопленых для яго рамонту грошай двойчы (у канцы мінулага і на пачатку гэтага года) я звяртаўся да прэзідэнта і парламента Рэспублікі Беларусь аднесці адзін мой дом да катэгорыі пацярпеўшых ад... "стыхійнага бедства".

А хіба ж не так, калі грошы ў ашчадбанку даўно "згарэлі"?

Але ні прэзідэнт, ні парламент не звярнулі ўвагі на маю бяду. Пасля гэтага прайшоў ураган, і давялося аднесці да гэтай катэгорыі тысячы дамоў, з якіх стыхія пазрывала дахі і ўвогуле разбурыла цалкам. А ці ж мой дом не ў такім стане? Ён жа няшмат чым адрозніваецца і таксама непрыгодны для жылля.

Аднак мае звяртанні да ўлад застаюцца пакуль што без увагі.

Здаецца, што пры гэтым прэзідэнце і парламенце гэтакія беды адбудуцца яшчэ не раз. Нічога, увогуле, не адбываецца выпадкова. І, як кажуць, Усявышняму ўсё бачна...

**Валянцін КЛЯПКО,**
**в.Лоцвіны, Капыльскі раён.**

Трудный путь

## Никто не хочет уступать...

*Похоже, что первый параграф регламента трехсторонних консультаций с участием представителей президента Беларуси, Верховного Совета 13-го созыва и Евросоюза по поиску путей выхода из конституционного кризиса станет камнем преткновения для всех.*

Суть спора, который начался еще месяц назад, — в одном: какую Конституцию — 1994 года, подписанную Мечеславом Грибом, или Конституцию 1994 года с изменениями и дополнениями, принятыми на ноябрьском референдуме 1996 года, — брать в качестве основы для дальнейшего совершенствования. Естественно, Верховный Совет настаивает на первом варианте, президентская "команда" — на втором. В качестве аргумента в свою пользу представители парламента приводят копию послания министра иностранных дел Беларуси Ивана Антоновича на имя заместителя премьер-министра и министра иностранных дел Королевства Нидерланды, председателя совета Европейского союза Ханса ван Миерло. В этом письме есть такие строки: "...Президент и правительство хотят обсудить со всеми депутатами Верховного Совета 13-го созыва вопрос об усовершенствовании Конституции 1994 года в целях установления более полного баланса между функциями и обязанностями трех ветвей власти — законодательной, исполнительной и судебной. Будет приветствоваться помощь Европейского союза и соответствующих международных организаций".

Правда, теперь Иван Антонович утверждает, что под Конституцией-94 он имел в виду "послереферендумный" Основной Закон. Кстати, существует такая версия. В письме президента Лукашенко на имя Ханса ван Миерло, которое министр повез в Гаагу, речь шла только о готовности Беларуси к сотрудничеству с международными организациями. Однако с этим письмом, в котором практически не было конкретики, главу внешнеполитического ведомства Беларуси его голландский коллега не принимал. И тогда якобы появилось соответствующее письмо Ивана Антоновича, которым теперь не без оснований козыряет группа Верховного Совета. Только после появления письма белорусского министра состоялась его беседа с Хансом ван Миерло.

Когда в перерыве второго дня трехсторонних консультаций я спросил у Ивана Антоновича, насколько правильно трактуют в кулуарах гаагские события, то в ответ услышал следующее: "Эта версия неверна". Естественно, я тут же решил выяснить, как выглядела ситуация в Гааге в интерпретации министра иностранных дел Беларуси. Однако Иван Иванович, ссылаясь на то, что это служебная переписка, отказался комментировать ситуацию до окончания трехсторонних консультаций. К тому же министр запаздывал на встречу с одним из послов, и продолжение беседы с ним, как я думаю, отложено, как говорится, "на потом".

Понимая, что обе белорусские стороны не могут прийти к согласию, евромиссия сама начала искать какой-то компромиссный вариант, дабы консультации продолжились. В качестве такого шага рассматривался вариант, при котором в регламент будет внесено примечание, суть которого сводится к тому, что обе белорусские стороны по-разному понимают нынешнюю ситуацию, но в интересах белорусского народа готовы продолжать трехсторонние переговоры.

**Владимир ГЛОД.**

### Перестанет ли быть Беларусь мировым рекордсменом?

Помнится, в политическом бомонде Беларуси ходила такая шутка: наша республика занимает первое место в мире только по одному показателю — по количеству вице-премьеров на душу населения. Видимо, исходя из этого, после отставки Леонида Синицына с должности заместителя главы Кабинета министров эту вакансию не стали заполнять. А теперь, похоже, число вице-премьеров еще уменьшится. По имеющимся сведениям, в ближайшее время, видимо, расстанется со своим креслом Василий Долголев. Предполагается, что он займет вакантное до сих пор место министра по делам СНГ. Напомним, что раньше "главным специалистом по делам Содружества независимых государств" был Иван Бамбиза.

**Владимир КОТ.**

Острый вопрос

## Верховный Совет №13:
## "похороны" снова отменяются?

В любом государстве верховную власть можно уподобить трехглавому дракону. Каждая из голов как бы представляет одну из ветвей власти — законодательную, исполнительную и судебную. Все они нужны, и каждая занята своим делом. Самое опасное для жизни дракона может случиться тогда, когда головы вдруг станут грызть друг друга и доказывать, кто из них главней. А между тем, лишившись хотя бы одной из голов, дракон попросту умрет.

Нечто похожее происходит сейчас в белорусском государстве: исполнительная власть "загрызает" свою единородную "сестру" — власть законодательную — при попустительстве третьей власти — судебной.

### Как власть исполнительная поссорилась с властью законодательной

Под занавес 1995 года в Беларуси "народился" Верховный Совет под номером 13 (кому-то на радость, а кому-то на страдания). Хотя "ребенок" и не был желанным для исполнительной власти, но с виду был спокойный и опасений не вызывал. Ни в чем он не перечил президенту, на многие его "проделки" закрывал глаза. Согласился он и на несбалансированный бюджет 1996 года, и на утверждение "задним числом" высших должностных лиц, уже назначенных президентом, и даже на никому не нужный (кроме президента) референдум.

Яблоком раздора послужила новая редакция Конституции, по которой президент становился государем всея Белой Руси, а Верховный Совет как легитимный орган власти распускался и вместо него учреждался полностью "ручной" парламент. Такой "инициативы" президента многие депутаты не снесли и заняли "оборону". По предложению 73 депутатов Верховного Совета начался процесс импичмента президента, однако в силу ряда обстоятельств успехом он не увенчался.

Ноябрьский (1996 года) референдум расставил точки над "і" в отношениях между властями. О том, как проходил белорусский плебисцит, теперь знает весь мир. Несмотря на решение Конституционного суда, президент ввел "новую редакцию" Конституции в действие.

### Расправа не заставила себя ждать

Как говорят, горе побежденным. Уже 27 ноября 1996 г. президент подписал Закон "О прекращении полномочий Верховного Совета Республики Беларусь тринадцатого созыва". Надо сказать, странный закон. Принят он неправомочным составом депутатов (103 депутатами, а требуется не менее 133) на "заседании", проходившем под патронажем Администрации президента. Вступил в силу "закон" почему-то с момента подписания, а не с момента опубликования, как все нормальные законы. И самое интересное, что не требуется принятия закона для прекращения полномочий Верховного Совета. Это делается постановлением, которое принимают сами депутаты без участия президента.

В тот день президент издал Указ №495 "Об одобрении списка депутатов Верховного Совета Республики Беларусь, включаемых в состав Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь". И в этот же день "одобренные" президентом депутаты приняли Закон "О формировании Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь", где "согласились" со своим составом.

Казалось бы, с Верховным Советом №13 покончено, и он уйдет с политической сцены. Но не тут-то было. Почти 50 депутатов отказались признать "похороны" Верховного Совета и продолжили работу в качестве народных избранников. Остался и полномочный депутатский орган — Президиум Верховного Совета во главе со спикером С.Шарецким. Депутаты стали регулярно собираться на заседания, где обсуждали насущные вопросы государственной и общественной жизни республики, образовали при Президиуме постоянно действующие комиссии по основным направлениям парламентской деятельности.

Характерно, что Европа в лице ведущих организаций (Совет Европы, Европейский союз, ОБСЕ) не признала итогов референдума и отказала в доверии "президентскому" парламенту. В то же время Верховный Совет был признан международным сообществом и его представители приглашаются на парламентские сессии европейских организаций.

Голос депутатов Верховного Совета был отчетливо слышен в общественно-политических событиях весны-97. Вспомним хотя бы "празднование" Дня Конституции 15 марта и "Чарнобыльскі шлях" 26 апреля 1997 года. Верховный Совет стал организатором II Национального конгресса демократических сил Беларуси, который собрал свыше 280 делегатов.

Многие депутаты, в том числе руководители Верховного Совета, подверглись административным репрессиям за участие в мирных общественных акциях. Для преодоления их депутатского иммунитета (священного во всех демократических странах) оказалось достаточно указания Генерального прокурора и инструктивного письма председателя Верховного суда.

Репрессии, лишение работы, финансовые трудности не сломили депутатов Верховного Совета. Они продолжают работу, объединившись вокруг Президиума. Не сдали они своих депутатских удостоверений и не "купились" на посулы исполнительной власти. Тогда "победители" нанесли еще один удар по продолжающему свою деятельность Верховному Совету.

### Исполнительная власть снова применяет незаконные методы

12 июня 1997 года президент Республики Беларусь подписал Закон "О толковании части первой статьи 143 Конституции Республики Беларусь". Он небольшой по объему (всего четыре части), но вопиющий по своей беззаконности.

В соответствии с частью первой этого закона, депутатами Верховного Совета, сохраняющими свои полномочия, признаются только те депутаты, которые вошли в состав Палаты представителей Национального собрания (интересно, за что им предоставлена такая честь? Может быть, за предательство, о котором пишет в "Дунькиной свадьбе" Е.Скрыган ("Народная воля", №92)? Определенные надежды сулит закон и депутатам Верховного Совета, которые подали заявление "о желании работать в Палате представителей Национального собрания", хотя и не вошли в ее состав.

Однако главной в законе является часть 4-я. Согласно ей, прекращаются полномочия депутатов Верховного Совета, "не изъявивших желания работать в Палате представителей Национального собрания Республики Беларусь и не подавших в установленном порядке соответствующих заявлений". Эти депутаты лишаются всего (о, несчастные?!) и объявляются недепутатами.

Насколько правомерна эта норма? Можно ли лишить депутатов их полномочий лишь на том основании, что они "не изъявили желания" работать в так называемом парламенте? Кем и когда он был установлен? И вообще, как можно кого-то лишить законных прав путем толкования Конституции?

Ответы на поставленные вопросы очевидны. Псевдозакон понадобился для того, чтобы избавиться от депутатов, сохранивших верность Конституции 1994 года. Именно их делают "лишенцами". Остальные депутаты сохраняют свои права. И наконец, какое это толкование, если "закон" содержит самостоятельные нормы права. Фактически под видом законности творится произвол.

Примечательно, что этот документ был обнародован в день начала переговоров между президентской стороной и делегацией Верховного Совета Европы и Европейского союза. Так с кем же сели за стол переговоров представители президента? С депутатами Верховного Совета или с "людьми с улицы"?

Для меня ответ не вызывает трудностей. Несмотря на фиговые листки вышеназванных законов, нет правовых оснований для прекращения полномочий Верховного Совета. Он был и остается легитимным органом государственной власти в Республике Беларусь. Другое дело, что исполнительная власть парализовала его деятельность и пытается всякими незаконными методами его "умертвить". Но Верховный Совет будет занимать свое место в политической жизни страны до тех пор, пока будут сохранять верность долгу и Конституции его депутаты.

Выходит, "похороны" Верховного Совета снова отменяются...

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**судья Конституционного суда, "уволенный" указом президента.**

Крымінал

## Нігерыец Чылі затрыманы на Беларусі. Крымінальная справа ўзбуджана на Украіне

**Супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі затрымалі абітурыента сталічнага тэхналагічнага універсітэта Анасіке Чылі.**

Амаль год паляванне за нігерыйцам праводзілі спецслужбы Украіны. У кастрычніку мінулага года ў Кіеўскім аэрапорце супрацоўнікі Службы бяспекі гэтай краіны затрымалі грамадзянку Малдовы Алену Чылі. Маладая асоба спрабавала правезці каля двух кілаграмаў гераіну, што, па сціплым падлікам, складала каля мільёна амерыканскіх долараў.

Муж затрыманай, ужо вядомы Анасіке Чылі, хаваючыся ад закона, падаўся ў Маскву, лічачы, што ў расійскай сталіцы яму будзе лягчэй "згубіцца". Тут ён набывае некалькі фальшывых дакументаў, якія дазваляюць Чылі "станавіцца" то грамадзянінам Ганы, то грамадзянінам Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.

У гэты час яго жонцы ўкраінскі суд выносіць прыгавор. Згодна артыкулу 70-1 Крымінальнага кодэкса Украіны, за кантрабанду наркатычных сродкаў у асабліва буйных памерах Алена Чылі, асуджаецца на дзесяць гадоў пазбаўлення волі.

Чылі, паверыўшы, напэўна, у сваю беспакаранасць, вырашае пакінуць Маскву і перабіраецца ў Мінск. Яго нахабнасць не мае межаў. Чылі вырашае паступіць ў Беларускі тэхналагічны універсітэт. Аднак павучыцца ў прыстыжнай вышэйшай навучальнай установе яму не давялося.

Супрацоўнікі КДБ Беларусі затрымалі наркадзяльца, і з санкцыі Генеральнага пракурора рэспублікі перадалі яго супрацоўнікам Службы бяспекі Украіны.

**Марыя ВІКТАРАВА.**

Правакацыя?

## Як у Гродне палохалі нямецкіх сацыял-дэмакратаў

Днямі завяршылася сумесная акцыя нямецкіх і беларускіх сацыял-дэмакратаў, накіраваная на папулярызацыю ідэй сацыял-дэмакратыі ў нашай краіне. У 15 гарадах ва ўсіх абласцях Беларусі былі праведзены сумесныя публічныя лекцыі і дыскусіі аб дзейнасці гэтых партый. З нямецкага боку ў акцыі прыняла ўдзел доктар юрыдычных навук, віцэ-прэзідэнт парламента зямлі Шлезвіг-Гольштэйн Габрыэле Кёчаў, з беларускага — лідар БСДП (Народая грамада) Мікалай Статкевіч. Падчас паездкі па краіне госці пабывалі на некаторых беларускіх прадпрыемствах, сустракаліся з жыхарамі ў чарнобыльскай зоне. Спадарыня Кёчаў сустракалася таксама з дэпутатамі гарсавета ў Баранавічах. Аднак ад сустрэчы з кіраўніцтвам выканаўчай улады Пінска яна адмовілася, бо днямі там былі арыштаваны за арганізацыю дэманстрацый і пікетаў прадстаўнікі гарадской арганізацыі БСДП (НГ).

Як паведаміў прэс-сакратар Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Беларусі (Народная грамада) Павел Карназыцкі, не абыйшлося і без правакацыі. Перад апошняй лекцыяй у Гродна машына, у якой ехалі нямецкія і беларускія сацыял-дэмакраты, была спынена аўтамабілем без апазнавальных знакаў. З яго выскачылі некалькі мужчын у цывільным і міліцыянер. Яны запатрабавалі дакументы ў вадзіцеля, грамадзяніна ФРГ. Калі дакументы былі прадстаўлены, міліцыя абвінаваціла вадзіцеля ў парушэнні правілаў дарожнага руху: "...наездзе левым колам на суцэльную лінію дарожнай разметкі".

Пацвердзіць ці абвергнуць гэты факт не было магчымасці, бо ішоў дождж і разметка (і ў сонечнае надвор'е не вельмі заўважная на беларускіх дарогах) не была бачна зусім. Таму вадзіцель пагадзіўся адразу заплаціць штраф. Але людзі ў цывільным, якія назваліся прадстаўнікамі ДАІ, гэта не дазволілі зрабіць і запатрабавалі, каб пасажыры затрыманай машыны перасялі ў іхні аўтамабіль.

Пасля катэгарычнай адмовы яны прымусілі вадзіцеля ехаць ў Ленінскі РАУС Гродна. Вадзіцеля там пратрымалі каля гадзіны, а сацыял-дэмакратаў увесь час спрабавалі вывесці з машыны. Усё гэта было спынена, калі М.Статкевіч папрасіў у "прадстаўнікоў ДАІ" дакументы. Як высветлілася, іх чамусьці затрымалі... супрацоўнікі крымінальнага вышуку. На гэтым інцыдэнт быў вычарпаны, але штраф у 30 тысяч беларускіх рублёў заплаціць прыйшлося.

На сустрэчы з гродзенскай грамадскасцю, амаль адразу пасля здарэння, Габрыэле Кёчаў заявіла, што яе не ўдасца запалохаць і нямецкія сацыял-дэмакраты і надалей будуць падтрымліваць сваіх беларускіх калег. А гэты выпадак, адзначыла спадарыня Кёчаў, даў ёй магчымасць яшчэ лепш зразумець сітуацыю на Беларусі і апавядаць пра яе на сваёй радзіме.

Згадзіцеся, правакацыі супраць нямецкіх сацыял-дэмакратаў дакладна характарызуюць беларускі рэжым і могуць прывесці да разрыву адносін Беларусі з самым буйным эканамічным партнёрам на Захадзе.

**Марына КОКТЫШ.**

**Размещая рекламу на страницах "Народной воли", Вы не только укрепляете свой бизнес, но и строите новую Беларусь!**

**Рекламу не обязательно доставлять в редакцию, ее можно вместе с гарантийным письмом передать по факсу: (017) 229-29-04. Телефон для справок: (017) 229-29-06.**

Народная Воля 18 ЛІПЕНЯ 1997 г.

Правінцыяльнае жыццё

# Дыялог з дзедам Паўлюком аб тым, чаму народ пакутуе

Я часта бываю ў вёсцы Міхневічы, што на Смаргоншчыне. У гэтым годзе там сустрэў сваю восемдзесят пятую вясну Павел Пятровіч Козел. Можна сказаць, усё жыццё працаваў на чыгунцы. Знаёмы мы даўно, кожнае лета дапамагаю яму ў касьбе. Касу так, бывала, накляпае, што тая, як брытва, аблізвае ўзгоркі і лагчыны.

На першы погляд, і пенсія ў старога нядрэнная. Ды яшчэ жонка — бабуля Маня, былая калгасніца, некалькі соцень тысяч атрымлівае. Але ж усё адно не хапае.

Успамінаецца адна з сёлетніх сустрэч з дзедам Паўлюком. Сядзеў той на кухні адвячоркам і даканчваў плесці кошык.

— Вось чым даводзіцца займацца, — сказаў ён, моцна паціскаючы мне руку.

— А што?! Дабаўка да пенсіі, — адказаў я.

— Якая там дабаўка! — ён у роспачы махнуў рукой. — Вось мяцёлкі выручаюць, летась чатыры сотні ў калгас здаў, то ячменю крыху далі. А кошыкі свае вяскоўцы разбіраюць, што з іх узяць. Да чаго дажывёмся, проста і не ведаю. Завод наш цагельны, што ля Вяллі пабудаваны, тыдзень у месяц працуе. Мой унук Віця за мінулы месяц зарабіў нейкі мізэр, а ў яго ж жонка і двое сынкоў маленькіх, маіх, значыць, праўнукаў. Так што палову пенсіі прыйшлося ім аддаць. Я тут неяк падумаў, мо лапці ўзяцца плесці, як думаеш?

— Хто яго ведае, — я ўсміхнуўся. — Думаецца, што да іх не дойдзем. Павінны ж калісьці падняцца на ногі ды выйсці з балота на бальшак.

— Даў бы Бог! — дзед Паўлюк уздыхнуў. — Я чаму пра іх сказаў, бо прыплыло ў памяці, як у дваццатым годзе бальшавікі наступалі. Салдаты іхнія абарваныя, амаль усе ў лапцях ды аборках. Мне дзесяць год было, толькі выскачыў на вуліцу, а адзін з іх тут жа падышоў да мяне і зняў з маіх штаноў папружку, новенькая такая была, бацька з тыдзень таму падарыў. Я ў слёзы, а дома яшчэ і лупцоўку атрымаў. А пасля, як толькі падрос, то ў польскай арміі служыў, у кавалерыі, нават фотакартка ёсць.

— І ваяваць давялося?

— А то як жа. З тымі ж бальшавікамі, што ў трыццаць дзевятым годзе нас вызвалялі, гары яны сінім полымем! Першы бой аказаўся і апошнім — усе трапілі ў палон. А здарылася гэта так. Наш паручнік, вось прозвішча не ўпомню, усё нам у вушы ўталкоўваў, што ў бальшавікоў усе танкі з фанеры. І вось на адным полі ўсім эскадронам рынуліся мы ў атаку на пяць танкаў. І ўратавала нас тое, што, на наша шчасце, вельмі разумным аказаўся камандзір танкістаў. Ён даў загад спыніць усе машыны і не страляць. А мы, як тыя дурні, паляцелі на іх з шаблямі. Наш паручнік вырваўся наперад, падляцеў на гнядым жарабцы да першага танка, ды як шарахне шабляй па ствалу пушкі. Вось тут і пачаўся сапраўдны цырк. Пераканаліся мы, што танкі не з фанеры. Тут далі паверх нашых галоў кулямётную чаргу, то мы адразу ж і паднялі рукі ўгору.

— І што ж далей было?

— У палоне ледзь мяне не расстралялі. Справа ў тым, што польскіх афіцэраў асобна трымалі. А тыя адчулі нядобрае, то давай пераапранацца ў форму радавых. Трапіў і я да іх. Але пасля аддалі загад — усім паказаць свае далоні. Вось мае мазалі мяне і ўратавалі — паверылі, што я не афіцэр. А іх жа пасля ўсіх расстралялі. У Катынскім лесе, сам ведаеш, больш за дзесяць тысяч.

Ён змоўк, а пасля дадаў:

— Пакутуем за грахі нашы цяжкія... Да чаго дайшлі — нішчым балоты, лясы, рэчкі. Бывала, з Вяллі ваду пілі, як кароў у маленстве пасвілі. А цяпер паспрабуй у ёй хаця б скупацца — адразу ж трапіш на бальнічны ложак. Засмурodзілі рэчку каналізацыяй і кароўнікамі. Летась падлешчыка злавіў у Вяллі, а той гноем смярдзіць, быццам з хлеўчука трапіў на вуду.

— Але ж трэба трымацца, дзед Паўлюк, як думаеш?

— Само сабой! Паспрабуй цяпер памерці, калі толькі за труну трэба выкласці дзве мае пенсіі. А на ўсё астатняе яшчэ больш набяжыць. Ды што пра мяне казаць, пажыў, слава Богу, але ж ты зірні навокал — маладыя людцы паміраюць, бо ўсё атручана: і зямля, і вада, і паветра. Кажуць, што ўжо з нашых калодзежаў і ваду піць нельга — уся ў нітратах. Я так думаю, што канец свету ўжо наступіў, толькі мы гэтага не прыкмячаем. А выратаваць нас можа толькі адно — пакаянне. Калі гэтага не зробім, то загінем усе. Наша вось цэркаўка асірацела, летась бацюшка памёр, а новага не прысылаюць, бо не спраўляецца семінарыя навучаць. Новыя храмы будуюць — гэта добра, але шлях да веры заўсёды быў няпросты.

Мы яшчэ крыху пагаварылі і развіталіся. А пад вечар наступнага дня я ад'язджаў у Мінск. Выйшаў на пагорак і азірнуўся. Вёсачка рыхтавалася да ночы.

**Павел САВОСЬКА.**

Обидно!

# Я, машинист паровоза, за годы работы не спал дома больше ночей, чем любой милицейский работник...

Уважаемая редакция "Народной воли"!

Недавно в одном из номеров "Народной воли" прочитал статью кандидата наук, доцента (названия и фамилию автора точно не помню, т.к. газета затерялась). Но не в этом суть, важно, о чем повествовал автор. А писал он о том, что он, кандидат наук, доцент с трудовым стажем 41 год, за май месяц получил пенсию в размере 850 тысяч рублей, а его сосед по даче, бывший шофер в системе МВД, с трудовым стажем 31 год, за этот же месяц получил пенсию где-то более 1 миллиона 600 тысяч рублей.

Автор статьи ставит вопрос: кто же из них — он, доцент с 41-летним стажем, или шофер милиции с 31-летним сроком службы — внес больше средств в казну государства? Конечно же, перевес в пользу первого. Тогда почему размер пенсии в пользу второго? Да еще с разницей примерно в 100 процентов?

Эта статья болью отразилась и в моем сердце. Почему существует такая несправедливость?

Ясно, что в жизни никто никогда не сравнит по весомости кандидата наук, доцента и шофера. Уже то, что он достиг ученой степени и должности доцента, стоило ему огромного труда и напряжения — это не трехмесячные курсы шоферов. А вот на пенсии доцент вроде шофера, а шофер — доцент.

Подумал я о себе. Я, бывший машинист паровоза, дизель-поезда, тепловоза 1-го класса, почетный железнодорожник, за май месяц тоже получил пенсию 859 тысяч рублей. Стаж моей работы — 43 года 10 месяцев.

Я очень уважительно отношусь к участникам и инвалидам войны. Если они получают пенсию больше меня, я это понимаю. Эти люди, защищая Родину, рисковали жизнью, проливали кровь, перенесли большие трудности и невзгоды.

Когда же пенсия сержанта милиции в два раза больше моей, я этого понять не могу, как бы мне ни доказывали, что милиционеры тоже в иных случаях рискуют жизнью и не всегда спят ночью дома.

Я, машинист, за годы своей работы не спал дома больше ночей, чем любой милицейский работник. На моей работе получалось так: уезжал в поездку или с вечера, или среди ночи, или под утро, так же возвращался домой. То есть отдыха нормального никогда не было. Не было и общих праздничных и выходных дней. Да и жизнью рисковать приходилось, ведь движение есть движение, там подстерегают всякие опасности.

Выходит, и мне обидно получать пенсию, в два раза меньшую за пенсию шофера из милиции. В общем-то, обидно всем, получающим гражданскую пенсию, потому что прожить на нее практически невозможно. И все-таки почему же такая разница между гражданскими пенсиями и пенсиями работников силовых структур?

Мое мнение: это потому, что наше народное правительство считает своей главной опорой силовые структуры, а не весь народ. Да, возможно, в настоящее время государство не может дать всем пенсионерам нормальную пенсию, но тогда же нужно дифференцированно подходить к ее распределению. Нельзя же так, чтоб одни жировали, а другие ходили полуголодными.

Ведь меня же, машиниста, ушедшего на пенсию в 1986 году со средним заработком 458 рублей, приравняли к уборщице, которая получала в то время 70 рублей. Теперь пенсии мы получаем равные. Доцент в своей статье по этому поводу ругает правительство. Я же считаю, что в нашей республике и правительство, и профсоюз — это президент.

Поэтому обращаюсь к Вам, Александр Григорьевич. Вы только тогда будете сильным президентом, когда будете опираться на весь народ, а не только на силовые структуры. Вопрос правильного распределения пенсий в государстве должны решить Вы.

**С уважением —**

**Борис ШАБУНЕВИЧ, пенсионер.**

*Минск.*

# Генеральны пракурор далажыў прэзідэнту...

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка 16 ліпеня прыняў з дакладам Генеральнага пракурора Алега Бажэлку.

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, Алег Бажэлка праінфармаваў аб стане законнасці па расследаванню спраў органамі пракуратуры ў падатковай сферы. Прэзідэнту краіны прадстаўлены канкрэтныя прапановы па ўдасканаленню дзейнасці органаў падатковых расследаванняў у мэтах больш эфектыўнага пакрыцця ўрону, нанесенага дзяржаве і грамадзянам.

У сувязі з тым, што Вышэйшы гаспадарчы суд і абласныя гаспадарчыя суды ў шэрагу выпадкаў прымаюць рашэнні, якія не адпавядаюць дзеючаму заканадаўству і тым самым дзяржаве наносіцца ўрон, генеральны пракурор унёс прапанову кіраўніку дзяржавы аб змяненнях у заканадаўстве для ажыццяўлення органамі пракуратуры нагляду за названымі судамі. Аляксандр Лукашэнка падтрымаў гэту прапанову і даў адпаведнае даручэнне работнікам Адміністрацыі Прэзідэнта і пракуратуры.

Алег Бажэлка далажыў прэзідэнту краіны аб выяўленых парушэннях у сістэме Дзяржаўнага мытнага камітэта і прынятых пракуратурай мерах.

Генеральны пракурор праінфармаваў аб прапановах пракуратуры ў праект Закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", прадстаўленага Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку ў Нацыянальны сход.

На сустрэчы былі разгледжаны і іншыя пытанні, звязаныя з дзейнасцю органаў пракуратуры.

**БелТА.**

## Праз 150 гадоў у беларусі зноў заняліся паліталогіяй

Упершыню за два стагоддзі ў Беларусі адбыўся выпуск студэнтаў па спецыяльнасці "паліталаг-юрыст". 15 ліпеня дыпломы атрымаў 21 студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

У свой час факультэт маралі, палітыкі і права ўваходзіў у склад Віленскага універсітэта. Аднак у 1832 годзе ўказам імператара Мікалая I гэта навучальная ўстанова была закрыта. Новы набор па спецыяльнасці быў праведзены ў Мінску толькі праз 150 гадоў. Паліталогію справядліва называюць пасттаталітарнай навукай, кіраванне дэмакратычнай дзяржавай патрабуе значнай тэарэтычнай падрыхтоўкі. Аднак веды першых беларускіх прафесіяналаў да гэтага часу не запатрабаваны — запрашэнні на работу атрымалі толькі нямногія з двух дзесяткаў выпускнікоў.

**Уладзіслаў ПЛАТУН.**

Стоп-кадр



*Вось дык праля!*

**Фота Мікалая Тытова, БелТА.**

Мудрость читателей

## Нельзя власть доверять одному человеку

Нельзя власть доверять одному человеку, да еще в советизированной стране. Философ и замечательный мыслитель Древней Греции Софокл говорил как будто для уразумения белорусов: "Не государство — где владыкою один". Более наглядно и убедительно в пользу народовластия выразился представитель эпохи Возрождения Сервантес: "Сотня глаз всегда видит лучше, чем два глаза".

Сама действительность подсказывает: Беларусь должна быть демократической парламентской республикой на могучем фундаменте краеугольного камня — **суверенитета, нейтралитета, безъядерности** с профессиональным парламентом.

**В.В.Боровиков, пенсионер.**
г.Пинск.

Стыхія

## Прыйшла бяда — адчыняй вароты

Ад стыхіі пацярпеў акружаны лясным масівам калгас "Дуброўка" Аршанскага раёна. Лівень, які прайшоў у гэтых мясцінах, знішчыў чвэрць пасеваў збожжавых, бульбы, льну, караняплодаў, амаль спелую капусту. У літаральным сэнсе слова яны патанулі ў вадзе. Прыпынена тут і нарыхтоўка кармоў. У сем мільярдаў рублёў ацанілі спецыялісты ўрон, нанесены даждҗом гаспадарцы.

Бяда яшчэ больш адчувальная таму, што гаспадарка вядзе вытворчасць прадукцыі раслінаводства па інтэнсіўных тэхналогіях. У мінулым годзе тут быў дасягнуты трэці ў рэспубліцы і першы ў Віцебскай вобласці паказчык ураджайнасці збожжавых — 52,4 цэнтнера з гектара. Рэнтабельнасць вытворчасці ў цэлым склала 41,3 працэнта. Добрыя віды на ўраджай, падмацаваныя адпрацаванымі для мясцовых умоў навуковымі абгрунтаваннямі, былі і ў гэтым годзе. Вось толькі перад капрызамі надвор'я вучоныя і практыкі пакуль бяссільныя.

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

## Аб індэксе спажывецкіх цэн за чэрвень 1997 года

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што за чэрвень 1997 года індэкс спажывецкіх цэн у параўнанні з маем 1997 года склаў 104,5 працэнта, з красавіком 1997 года — 109,7 працэнта, са снежнем 1996 года — 141,3 працэнта.

# Прафсаюзы патрабуюць павышэння "мінімалкі" ўжо ў жніўні

*Удасканаленню аплаты працы ў галінах эканомікі краіны было прысвечана чарговае пасяджэнне Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях.*

Федэрацыя прафсаюзаў беларуская не згадзілася з прапановамі Міністэрства працы рэспублікі, якія датычаць фарміравання заработнай платы ва ўмовах рыначных адносін. На думку ФПБ, распрацаваны ў нетрах урадавых кабінетаў дакумент не адпавядае Генеральнаму пагадненню паміж урадам, рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзаў на бягучы год.

Няспынны рост цэн, лічыць ФПБ, павінен быць кампенсаваны насельніцтву не ў туманнай перспектыве, а ўжо ў жніўні бягучага года. У сувязі з гэтым прафсаюзы настойваюць на пераглядзе тарыфнай стаўкі першага разраду і павелічэнні мінімальнай зарплаты. Паводле іх разлікаў, увядзенне прапануемай урадам пагадзіннай тарыфнай стаўкі першага разраду магчыма толькі ва ўзгадненні з рэалізацыяй мер па фінансава-эканамічнаму аздараўленню прадпрыемстваў. ФПБ лічыць таксама неабходным перагледзець падаткова-бюджэтную і фінансава-крэдытную палітыку дзяржавы.

У выніку праведзеных дэбатаў было вырашана дапрацаваць прапанаваны Міністэрствам працы дакумент па ўдасканаленню заработнай платы і прадставіць яго ў Савет Міністраў.

**БелТА.**

# Украінскіх журналістаў цікавіць сітуацыя ў Беларусі

*Трохгоддзе з дня выбрання Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнтам Беларусі выклікала вялікую цікавасць украінскіх журналістаў да унутрыпалітычнай сітуацыі ў нашай краіне. У гэтай сувязі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ва Украіне Віталь Курашык правёў для іх прэс-канферэнцыю.*

Як паведаміў БелТА саветнік пасольства Уладзімір Бокач, на прэс-канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі такіх вядучых украінскіх выданняў, як "Голас Украіны", "Дзень", "Рабочая газета", "Прафсаюзная газета". Журналістаў асабліва цікавілі пытанні, звязаныя з дасягненнем сацыяльнай і палітычнай стабільнасці ў беларускім грамадстве пасля пераадолення канстытуцыйнага крызісу і правядзення рэформ у органах дзяржаўнага кіравання. Стабілізацыя беларускай эканомікі, якая назіраецца апошнім часам, стала асобай тэмай размовы пасла з прадстаўнікамі прэсы.

Як стала вядома БелТА, акрамя гэтай прэс-канферэнцыі пасол Беларусі ва Украіне Віталь Курашык даў вялікае інтэрв'ю нацыянальнаму тэлеканалу УТ-1, а таксама тэлеканалам "Інтэр", "ЮТАР" і "ТЕТ", дзе расказаў аб цяперашняй грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

**БелТА.**

# Гучыць духоўная музыка



Некалькі дзён у Магілёве пад купалам касцёла св.Станіслава з поспехам праходзілі канцэрты V Міжнароднага фестывалю хрысціянскай музыкі "Магутны Божа". Сюды з'ехаліся творчыя калектывы з Мінска, Рыгі, Польшчы, Грузіі, Украіны.

**На здымку:** *мужскі камерны хор "Баграці" з Грузіі.*

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

# Студэнтам семінарыі стаць не проста

Першыя заявы ад абітурыентаў паступілі ў Мінскую вышэйшую праваслаўную духоўную семінарыю, якая знаходзіцца ў вёсцы Жыровічы каля Слоніма. Як растлумачыў карэспандэнту БелТА яе інспектар Генадзь Поўны, студэнтамі гэтай навучальнай установы могуць стаць халастыя і жанатыя першым шлюбам мужчыны праваслаўнага веравызнання, якія маюць сярэднюю або вышэйшую адукацыю. Пры гэтым трэба вытрымаць экзамены. Жадаючыя быць залічанымі здаюць вусны экзамен па біблейскай гісторыі і катэхізісу, а таксама пішуць пераказ на беларускай або рускай мове на біблейскую або царкоўна-прыходскую тэму. Ім таксама неабходна прачытаць на памяць некалькі малітваў і Псалтыр на царкоўнаславянскай мове, выканаць царкоўнае песнапенне.

Цікава, што акрамя аўтабіяграфіі і іншых традыцыйных дакументаў пры паступленні абітурыенты прад'яўляюць даведкі аб хрышчэнні і вянчанні, рэкамендацыю архірэя епархіі або прыходскага свяшчэнніка.

Сёлета ў семінарыі адбыўся чацвёрты пасля аднаўлення ў 1989 годзе яе дзейнасці выпуск свяшчэннікаў, а ўсяго з часу заснавання іх было 18. Другі год сюды прымаюць дзяўчат. Іх вучаць кіраваць царкоўным хорам.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

## На сяле выявіліся лішнія рабочыя рукі?

Немалая частка вясковай моладзі Міншчыны атрымала шанц правесці астатак лета вельмі прыемна і не працуючы. Напярэдадні ўборачнай кампаніі адміністрацыя сталічнай вобласці зацвердзіла новыя рэкамендацыі па тэхніцы бяспекі, згодна з якімі здольнасць да працы ў падлеткаў пазўляецца толькі пасля дасягнення 15 гадоў. Але нават тыя, каму стукнула пятнаццаць, могуць прэтэндаваць выключна на самую нізкааплатную работу на збожжатаках. Пры гэтым яшчэ спатрэбіцца прайсці медыцынскі агляд, атрымаць згоду прафсаюзнага камітэта і аднаго з бацькоў.

Стаць паўнацэнным грузчыкам, на думку адміністрацыі, можа толькі здаровы юнак, які дасягнуў 18 гадоў. А для таго, каб кіраваць самымі простымі пагрузачна-разгрузачнымі і транспартнымі механізмамі, абавязкова спатрэбіцца яшчэ і спецыяльная падрыхтоўка.

Рэкамендацыі Мінскага аблвыканкама поўнасцю абгрунтаваныя, аднак выкананне іх для большасці гаспадарак не прадстаўляецца магчымым. Маладыя работнікі ў час уборачнай лішнімі не бываюць.

**Уладзіслаў ПЛАТУН.**

Впервые!

# Волшебная музыка Антония Радзивилла звучит...

Этого события в концертном зале Белорусской государственной филармонии, которое, без преувеличения, можно назвать эпохальным для белорусской культуры, ждали загодя. Впервые на Беларуси в исполнении хора и оркестра Телерадиокомпании, а также солистов белорусской оперы прозвучали фрагменты оперы "Фауст" композитора Антония Хенрыка Радзивилла. Подготовил это произведение к исполнению творческий коллектив "Белорусская капелла", который уже несколько лет изучает партитуру Радзивилла и стремится к тому, чтобы это сочинение обрело известность и заняло достойное место в ряду романтических оперных шедевров.

Эта опера, законченная композитором в 1931 году, в середине прошлого столетия с большим успехом ставилась на сценах многих европейских городов и приобрела широкую популярность. Однако уже более ста лет она остается не востребованной оперными режиссерами, и тот факт, что первое музыкальное воплощение поэмы Гете создано композитором белорусского происхождения (в соавторстве с поэтом!), сегодня практически не известен даже специалистам.

Сейчас Белорусская телерадиокомпания осуществляет фондовую запись "Фауста" Радзивилла, а в перспективе, как мы надеемся, известный кинорежиссер Виктор Шевелевич на основе этой записи снимет фильм-оперу.

Исполнение "Фауста" Радзивилла на сцене Белорусской филармонии — двойная премьера. Впервые музыка Радзивилла будет исполнена на родине композитора, и впервые это произведение прозвучит на белорусском языке, что стало возможным благодаря самоотверженному труду нашего замечательного переводчика Василя Семухи, сделавшего экворитмический перевод немецкого либретто оперы.

Специально к этому исполнению "Белорусская капелла" выпускает буклет, посвященный произведению Радзивилла, в котором читатель найдет малоизвестные сведения об истории создания и сценической жизни первого музыкального "Фауста" и ее авторе. Кроме фактического материала буклет содержит некоторые наши заключения по поводу музыкально драматических закономерностей оперы и философских идей, воплощенных в музыке Радзивилла.

Публика, знакомая с деятельностью "Белорусской капеллы", уже наслышана об этом произведении. Отрывки из "Фауста" прозвучали в концертах в Несвиже и Минске, в белорусской прессе неоднократно появлялись публикации, а на радио — передачи о Радзивилле и его "гениальной, порывистой композиции" (по определению Гете). Все это, вкупе с восторженным отношением к этой музыке деятелей капеллы, которые, по выражению В.И.Скоробогатова, уже давно "офаустели", создало в Беларуси атмосферу напряженного ожидания премьеры.

Премьера — всегда праздник. Однако для нас исполнение "Фауста" — нечто значительно большее, чем просто радостное событие. Мы ощущаем себя сегодня в некоторой степени наследниками Мендельсона и его учителя, Карла Цельтера, открывших для широкой публики творчество Иоганна Себастьяна Баха. Наше самоощущение как "первооткрывателей" связано не только с тем, что радзивилловский "Фауст" сегодня практически забыт, но и с тем, что само сочинение, как и история его создания, совершенно уникальны.

Опера Антония Радзивилла уникальна по многим причинам. Основная из них состоит в том, что Радзивилл — единственный композитор, с которым Гете сотрудничал как либреттист, переработав текст I части своей поэмы в оперное либретто и дописав по просьбе Радзивилла специально для оперы дополнительные новые фрагменты текста, на что, как известно, он не шел никогда ранее и никогда после.

Уникальность оперы князя Радзивилла состоит и в том, что, написанная при участии Гете, она вместила в себя весь широчайший спектр философской, религиозной и нравственной проблематики литературного "Фауста". И в этом, возможно, кроется основная причина невнимания к сочинению Радзивилла со стороны музыкальных театров: идея Божественной любви, путь покаяния к прощению — главная мысль этой оперы была для музыки конца XIX века нетрадиционной. Да и сам путь к прощению через веру, наивное состояние души, декларированный композитором, мог показаться слушателю, особенно слушателю XX века, как бы слишком простым.

В то же время сама музыка — то трогательно безыскусная, то полная драматического напряжения, то окарикатуренно-гротескная, то вызывающая мистический ужас, но всегда пленяющая своей искренностью и неподдельным сочувствием автора к своим героям, взовет к нашему сопереживанию — непосредственно обращена к самым сокровенным сторонам нашей людской души, где всегда есть хоть немного нелицемерной доброты и сострадания.

Итак, сегодня мы обращаемся к музыке нашего соотечественника и не столь уж далекого предка. Возможно, потому, что уже наступило время нашего с вами покаяния, без чего не может быть прощения. И даже если оно пришло не ко всем. Что ж, есть повод погрузиться в себя под чарующие звуки "гениальной, порывистой композиции"...

**Наталья СОБОЛЕВА, музыкальный редактор "Белорусской капеллы".**

Проблема!

# Страшно подумать, какую воду мы пьем...

Все знают по учебникам, что жизнь зародилась в океане. Все знают, что вода — это жизнь, без воды человек не может прожить и трех дней, вода составляет 60 процентов массы тела человека. Ежедневно взрослый человек должен выпивать около 2,5 литра воды. А это значит, что за 60 лет своей жизни человек выпивает целую цистерну воды — 50 тонн.

Как ни странно, мало кто в мире осознает, что питьевая вода для человечества важнее, чем любые достижения науки и техники. Между тем запасы питьевой воды с каждым годом катастрофически уменьшаются. Общий объем водных ресурсов Земли — 1,4 млрд. км$^3$, т.е. на каждого жителя приходится 300 млн. м$^3$. Но пресной воды не так много, всего 2,5 процента от общего количества. Причем более 2/3 ее законсервировано в ледниках и снежниках.

В Беларуси, на первый взгляд, ситуация с водой довольно благоприятная. Сток рек, протекающих по нашей территории, составляет 58 км$^3$. Прогнозные ресурсы пресных подземных вод оцениваются в 49596 тыс. м$^3$/сут. Таким образом, если полностью использовать всю пресную воду (речную или подземную), то на каждого жителя приходится 20 м$^3$ в сутки. Но это если полностью и если вода будет чистая. Но вода загрязнена. В больших дозах она содержит нефтепродукты, азот аммонийный и нитратный, фенолы, органические и биогенные вещества, соли тяжелых металлов. За последние 15 лет минерализация воды в крупных реках республики, таких как Днепр, Припять, Неман, возросла на 20 процентов. В результате сброса неочищенных сточных вод в реках увеличивается содержание тяжелых металлов. Например, в реки Гомельской области в 1991 году, по официальным данным, сброшено в виде солей: цинка — 10675 кг, никеля — 8505 кг, меди — 10238 кг, хрома — 1137 кг. Загрязнены подземные и грунтовые воды. Изменяется их химический состав, растет общая минерализация, содержание азота, хлоридов, тяжелых металлов, нефтепродуктов, фенолов и т.д. Пятая часть колодцев на территории республики имеет воду, неблагоприятную по микробиологическим показателям и содержанию ядохимикатов. Нитратное загрязнение грунтовых вод превышает в 2—10 раз нормативы.

Вот и получается, что мы пьем химико-бактериологический коктейль. Что же делать? Выход один: воду надо очищать, причем не только в деревне, на дачном участке, но и в городе. Устаревшие технологии очистки воды, применяемые на водопроводных станциях, не позволяют получить кондиционную питьевую воду, так как не справляются с большой степенью загрязнения солями тяжелых металлов, пестицидами и т.п. Все это беспрепятственно вытекает из наших кранов. Современная очистка обезвреживает болезнетворные организмы и снижает уровень содержания железа (при наличии станции обезжелезивания). Для подавления активности болезнетворных бактерий практически на всех водопроводах республики применяют хлорирование воды. При этом возникают новые хлоросодержащие соединения, которые также опасны для здоровья людей. Кроме того, если даже предположить, что водозаборы полностью справляются с очисткой воды, то дальнейший ее путь проходит через ржавые и дырявые коммуникации, где она возьмет многое из того, от чего ее только что очистили, и еще добавится то, чего не было. По оценкам специалистов, половина водопроводов в дефектном, негодном состоянии. Да вы и сами почти каждый день видите работу ремонтников.

Поэтому единственное решение — доочистка воды у крана, т.е. использование индивидуальных водоочистительных устройств. Пить нужно только хорошую воду!

**Н.КАРТАШ, председатель Белорусской партии зеленых.**

